# Чым жа займаецца Менская гарадская рада Таварыства Беларускай мовы?

*Такія пытанні часта чуюцца ад прадстаўнікоў нашай сталічнай грамадскасці. Пры гэтым многія не ведаюць, што наша ТБМ (не толькі Менскае,- але і ўсёй рэспублікі) працуе на грамадскіх пачатках, пры якіх сябры рады і прыхільнікі нашых мэтаў і здзяйсненняў бескарысна ахфяруюць свой час, сваё здароўе. Трэба звярнуць увагу і на тое, што наша дзейнасць не проста не вітаецца беларускімі ўладамі ўсіх узроўняў, а глушыцца рознымі супрацьстаяннямі і (бывае!) нават непрыстойнымі прыёмамі. Галоўнае, чым мы зараз займаемся, названа ў нашым наступным плане, які ўключае толькі найбольш уплывовыя па мэтавасці мерапрыемствы.*

## АРЫЕНЦІРОВАЧНЫ ПЛАН ГАЛОЎНЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ МЕНСКАЙ ГАРАДСКОЙ РАДЫ ТБМ НА 1999 – ПЕРШУЮ ПАЛОВУ 2000 г.г.

План складзены на аснове існай рэаліі стану беларускамоўнасці нашага грамадства і наступных галоўных задач ТБМ: узняць разуменне беларускім народам свайго святога абавязку захаваць і развіваць беларускую мову; стварыць умовы ў нашым грамадстве, пры якіх мова стане напрамую патрэбна ва ўсіх сферах жыццядзейнасці. У адпаведнасці з гэтым і існуючымі магчымасцямі планам прадугледжваюцца мерапрыемствы:

1. Перарэгістрацыя раённых радаў ТБМ г. Менска. Удакладненне складу сяброў гэтых радаў паіменна, збор складак. Адказнае – усё ТБМ Менска. Тэрмін выканання – да 15 чэрвеня 1999 г.

2. Зварот да кіраўніцтва навукова- даследчых, праектных, вытворчых, навукова – вытворчых і навукова – праектных інстытутаў Менска з канкрэтнымі пытаннямі аб стане беларускай мовы ў гэтых установах і галіновых інтэлектуальных асяроддзях, аб іх магчымасцях у справах захавання і развіцця беларускай мовы і ўплыву ў гэтых адносінах на ўсё наша грамадства. Адказныя: Саламонаў А.А., Анісім А.М., Русаў П.А., Стэпановіч Я.М. Тэрмін выканання – да 15 ліпеня 1999 г.

3. Збор адказаў ад вышэй названых устаноў, іх аналіз, выступленні на яго аснове ў друку. Адказныя: Саламонаў А.А., Анісім А.М., Крукоўскі М.І., Содаль У.І. Тэрмін: да 15 жніўня 1999 г.

4. Завяршэнне ўстанаўлення дзейсных сувязяў Менскай гарадской рады ТБМ з ТБМ ВНУ г. Менска. Правядзенне Менскай гарадской канферэнцыі па абмену досведам дзейнасці суполак ТБМ гэтых устаноў і па аналізу зместу праграм выкладання ў іх беларускай мовы, а таксама праводзімых мерапрыемстваў для студэнтаў розных спецыяльнасцяў. Адказныя: Навумовіч У.А., Мазец В.Г., Васючэнка П.В., Лойка Т.В., Бекіш В.А., Таболіч А.У., Тэрмін выканання: да 1-га кастрычніка 1999 г.

5. Правядзенне сумесных паседжанняў гарадской і раённых радаў ТБМ г.Менска з мэтай больш глыбокага азнаямлення з сутнасцю працы гэтых суполак, аказання ім неабходнай і магчымай дапамогі, выслухоўвання іх заўваг. Адказныя: Савіцкі М.І., Урбан М.А., Таболіч А.У., старшыні раённых радаў. Тэрмін выканання:

- для Цэнтральнага раёна – да 01.7.1999 г.
- для Першамайскага раёна – да 15.8.1999 г.
- для Партызанскага раёна – да 01.9.1999 г.
- для Менскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта – да 15.10.1999 г.
- для Кастрычніцкага раёна – да 01.11.1999 г.

6. Арганізацыя стварэння помнікаў, знакаў ушанавання і павагі найбольш выніковым дзеячам і з'явам беларускай мінуўшчыны і сучаснасці. Выступленні па гэтай тэматыцы ў друку, пры розных сустрэчах з грамадскасцю, правядзенне разнастайных суразмоў з асобнымі грамадзянамі, арганізацыя адпаведных выставаў і інш. Адказныя: Белы А.Я., Цыркуноў Алесь, Шагулін А.І. Тэрмін выканання: на працягу года.

7. Удзел у Міжнароднай канферэнцыі "Беларуская нацыянальная ідэя" у г. Горадні (арганізатар – аб'яднанне "Ратуша"). Выступленне там з дакладамі: "Беларуская нацыянальная ідэя як канцэпцыя жыццядзейнасці беларускага грамадства" і "Беларуская нацыянальная ідэя рацыянальнага выкарыстання зямельных рэсурсаў Беларусі". Выканаўца: Саламонаў А.А. Тэрмін: да 01.5.1999 г.

8. Выданне ў адпаведнасці з п.7 брашуры аб'ёмам да 70 старонак. Адказныя: Саламонаў А. А., Бандарук М.Ф., Мкртычан У.В. Тэрмін: да канца года.

9. Выступленне ў друку і на сустрэчах з прадстаўнікамі працоўных калектываў (МАЗ і інш.) па тэматыцы: "Што такое этнас наогул і беларускі – у асаблівасці", "Асаблівасці беларускай мовы", "Навошта Богам створаны розныя этнасы і мовы", "Навошта неабходна іх захаванне". Адказныя: Саламонаў А.А., Грэсская Б.І. Тэрмін выка-нання: на працягу года.

10. Працяг выпуску "Голасу беларуса". Адказныя: Саламонаў А.А., Белы А.Я., Кажамякін Г. Тэрмін выканання: на працягу года.

11. Удзел у розных разавых мерапрыем-ствах па ахове і развіццю беларускай мовы (пікетах, мітынгах, шэсцях і іншых аналагічных акцыях). Адказныя: Лавіцкі М.Я., Ліпскі У.П., Русаў П.А. Тэрмін выканання: на працягу года.

12. Арганізацыйна-фінансавыя мерапрыемствы па забяспячэнню бягучых патрэбаў ТБМ (паштоўкі, друкаванне матэрыялаў, ксеракопіі і інш.). Адказны: Яначкаў І.І. Тэрмін выканання: па меры падрыхтоўкі.

13. Сустрэчы з бацькамі будучых першакласнікаў з мэтай паляпшэння фармавання беларускамоўных класаў (з 1.07.99г.). Адказныя – сябры ў адпаведнасці з дадатковым планам. Тэрмін выканання: па меры неабходнасці.

14. Сувязь з беларускім замежжам. Адказны: Белы А.Я. Тэрмін выканання: на працягу года.

***Старшыня Менскай гарадской рады ТБМ, доктар тэхнічных навук, прафесар Аляксей Саламонаў.***

## Дзіўная моўная сітуацыя

Сапраўды ў пытаннях беларускае мовы ў нашым незалежным друку назіраецца вельмі дзіўная сітуацыя. А папраўдзе кажучы, тое ёсць і ва ўсіх беларускіх выданнях. Паколькі мне даводзіцца рабіць агляд СМІ пра беларускую мову, то ў апошнія паўгода мушу сутыкацца не толькі з праблемаю адсутнасці матэрыялаў на гэтую тэму, але і з прыкладамі іншага кшталту. Магчыма, для памяркоўнага беларуса гэта не выкліча здзіўлення, але ў нашым друку апошнім часам праблему беларускае мовы абмяркоўваюць розныя людзі: як рабочыя, так і сяляне ды інтэлігенцыя. Адным словам, поўны набор марксісцка-ленінскай тэрміналогіі. А дзіўнае ўсё ў тым, што свае допісы ў рэдакцыі ў абарону беларускай мовы яны пішуць па-расейску. Парадокс. Але, тым не менш, я не хацеў бы, каб мае радкі прагучалі нейкім папрокам гэтым людзям. Без сумнення, тут трэба зазначыць, што іх (памяркоўных беларусаў) з маленства гвалтавалі расейшчынай, а потым, у сталым жыцці, яны апынуліся і застаюцца зараз у расейскамоўным асяроддзі, якое, нібы павуцінне, ахінула ўсю Беларусь. Не толькі па газетах, але і па ўсяму наваколлю бачна, што ў больш-менш думаючых людзей у апошнія месяцы назіраецца паварот да беларускасці, але іх крокі, як таго немаўляці, настолькі няўпэўненыя, што варты не папрокаў, а звычайнай падтрымкі. З аднаго боку можа некаму прыкра чытаць расейскамоўны допіс, дзе аўтар шчыруе ў абарону беларускае мовы, але чалавек робіць тое з сэрцам.

Можа гэта і ёсць пачатак сапраўднага вяртання да каранёў сваіх?

***Язэп Палубятка.***

**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

***Краса, прыгажосць, хараство і пекната.*** Слова ***пекнота*** і яго ўтваральнае ***пекны*** нашыя акадэмічныя перакладныя слоўнікі не фіксуюць. А вось слоўнікі 20-х гадоў іх падавалі: "Пекны – красивый, изящный, пекната – ж. Красота, изящество" (БРС –26. С.230,231); краса – пекната, пекнасць 'далкая, палючая прыгажасць, хараство' (ПРК(Б) С.С.284). Фіксуе лексему ***пекната*** і "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.4.Мн.,1980.С.153): "Пекната, ж. Разм. Уласцівасць пекнага; прыгажасць. Лёс табе даў пекнату чараўнічую, дасць ён, напэўна, і шчасце вялікае. Дубоўка. Хто тварэц жыцця людскога, Волі, шчасця, пекнаты? Чарот". Бачым тут і словаўтваральны прыметнік гэтага слова: "Пекна,-ая,-ае. Разм. Прыгожы. Пекныя ўзоры Тчэ кляноў задумны лістапад. Куляшоў. Анэта мела чорныя вельмі зваблівыя вочы і яшчэ больш зваблівыя, пекныя вусны. Сачанка". Здзіўляе толькі штучна прыклееная тут бірка *"разм (оўнае)"*. І гэта пры такім выкарыстанні і такімі знакамітымі аўтарамі! Насамрэч, слова ***пекната*** – адэкват замацаваных слоўнікамі лексічных адзінак ***краса, прыгожасць, хараство, вытанчанасць.*** Гэта пацвярджаюць і самыя новыя тэксты. Напрыклад: "Літаратура нібы дранцвее ў прадчуванні жаху і перадае сваё нямое слова трывогі вельмі дзіўным персанажам – нямко ці блазен, нямоглы старац ці "слязінка дзіцяці" тады змяшчаюць выратавальную ідэю пекнаты ў нязвыклых і вонкава звыродных формах" (Ігар Жук. Сустрэчны рух. Літаратуразнаўчыя эцюды. – Гродна, 1998.С.53).

***Далёкі – а не дальні, блізкі – а не бліжні.*** І мы, пераселеныя ва ўсе куткі Беларусі, усё неяк "міма раю", і новыя веткаўцы з блізкага і дальняга замежжаў ды навакольных вёсак – "маршрутам" гэткім жа" (ЛіМ. 4.09.1998.С.5). Слова ***дальні*** – механічна перанесенае ў беларускі тэкст рас. ***дальний.*** У беларускай мове яму адпавядае слова ***далёкі.*** Гэта засведчыў знакаміты акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М.,1953.С.107): "Дальний – далёкі, дальний путь – далёкі шлях; дальнее озеро – далёкае возера". Тое самае бачым і ў пазнейшых яго перавыданнях – РБС –93, РБС –98 (Т.1. С.342). Не падае гэтага ***дальні*** нават БРС – 88, 89. І гэта натуральна, бо беларускае ***далёкі*** дакладна адпавядае рас. ***дальний.*** На с. 355 першага тома бачым: "Далёкі 1. (находящийся на большом расстоянии; имеющий большое протяжение)…дальний; отдалённый; 2. (о родстве) дальний; далёкі сваяк – дальний родственник". Гэтую норму пацвярджаюць і іншыя словы з гэтай асновай, што падаецца слоўнікам: далёкаўсходні – ***дальневосточный, далёкасць – дальность; Далёкі Усход – Дальний Восток".*** (Тамсама).

А вось "Тлумачальны слоўнік" невядома для чаго змясціў на сваіх старонках і гэтае ***дальні.*** Прычым тлумачэнні значэння слова ***дальні*** тыя самыя, што і ў слове ***далёкі.*** Параўнайма: "Далёкі… 1. Які знаходзіцца, адбываецца на вялікай адлегласці; проціл. блізкі// Які мае вялікую працягласць ў прасторы" (с.126); "Дальні… "Які мае вялікую працягласць у прасторы" (с.128).

Слова ***бліжні*** таксама неўласцівае беларускай мове, яму адпавядае ***блізкі***, што і засведчыў згаданы БРС – 88: "Блізкі (в пространстве) ближний, близлежащий; з блізкай дыстанцыі воен., спорт. – с ближней дистанции" (с.190). Слоўнік падае ***бліжні*** толькі як ненарматыўнае слова: "Бліжні 1. Обл. см. блізкі 1; 2. В знач. сущ. см. блізкі; 3. Уст. Книжн. в знач. сущ. ближний; палюбі бліжняга свайго – возлюби ближнего своего (с.189). Перакладныя слоўнікі пацвярджаюць гэтую выснову: "Ближний 1. Прил. блізкі" (РБС – 93, РБС –98. Т.1.С.109). Тут бачым і іншыя словы з гэтаю асноваю: ближневосточный – блізкаўсходні, Ближний Восток – Блізкі Усход. (Тамсама).

А вось згаданы "Тлумачальны слоўнік" і тут стаўся выключэннем. У ім бачым: "Бліжні-, -яя,-яе. 1. Які знаходзіцца блізка; 2. У знач. наз. бліжні. Родны чалавек або прыяцель" (ТСБМ. Т.1.С.384,385). Але, як мы бачылі, РБС – 93 і РБС – 98 і з значэннем назоўніка падаюць толькі слова блізкі (а не бліжні). На старонкі ТСБМ гэтыя словы – ***бліжні і дальні*** — перанеслі з расейскамоўных тлумачальных слоўнікаў (разам з іх дэфініцыямі). Бо паводле здаровага розуму – "які знаходзіцца блізка" і ёсць блізкі (а не бліжні). Параўн. у Ніл Гілевіча: "Наша імя становіцца ў самым горшым сэнсе назыўным у вуснах градзян блізкага і далёкага замежжа". ("Абаронім незалежнасць нашай дзяржавы"// Народная воля. 4.03.1999.С.1).

***Карта і мапа.*** Слова ***мапа*** з значэннем ***'геаграфічная карта'*** падавалі слоўнікі 20-х гадоў. У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С. Некрашэвіча (Менск,1926.С.166) чытаем: "Мапа ж. – карта (географическая)". Слова ўласцівае і заходнеславянскім мовам: польск. ***mapa***, славацк. ***mapa***, чэшск. ***Mapa***. Відаць, таму, што яго мае польская мова, гэтае ***мапа*** выгналі з слоўніка беларускай мовы.

Падчас нашага нацыянальна-культурнага адраджэння слова ***мапа*** стала актыўна выкарыстоўвацца ў нацыянальным друку. Вось адзін з шматлікіх прыкладаў: "Старая мапа Гродзенскай губерніі таксама ўтрымлівае ў гэтым месцы шуканую назву ўрочышча Краснасток" (Ігар Жук. Сустрэчны рух. Літаратуразнаўчыя артыкулы. – Гродна, 1998,С.29).

Бачым слова мапа і ў вайсковых даведніках. Напрыклад, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С. Чыслава (Менск,1997.С.77): "Карта – карта, мапа, аркуш".

***Глядач і глядзельнік.*** Слова ***глядзельнік*** у 20-я гады было замацаванае ў "Беларускай навуковай тэрміналогіі. Вып. 2. Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва" як адпаведнік рас. ***зритель.*** Падае яго і БРС-26: "Глядзельнік м. – зритель. НТ2". Тут бачым і іншыя аднаасновавыя словы: "Глядзельны – зрительный. Глядзельня, ж. – зрительный зал. Гляденьне н. – смотрение"; ды інш. Як бачым, слова ***глядзельнік*** добра стасуецца з дзеясловам ***глядзець*** і мае высокапрадукцыйны суфікс асобы ***–льнік (глядзе-льнік)***, ідэнтычны націск і шмат словаў з той самай асновай і суадносным значэннем, што досыць трывала мацуе гэтыя словы: ***глядзець, глядзельня, глядзельнік.*** Форма ***глядач*** замацавалася ці не пад уплывам украінскай мовы (дый польскай).

Слова ***глядзельнік*** і сёння бытуе ў мове і выкарыстоўваецца ў друку: "Цяжка схемай узрушыць глядзельніка да глыбіні душы, цяжка схемай выклікаць слёзы глыбокіх псіхалагічных перажыванняў…" (Ігар Жук. Сустрэчны рух. Літаратуразнаўчыя эцюды. – Гродна, 1998. С.41).

*(Працяг у наступным нумары)*

# Блуканне па пакутах беларускай мовы

Так ужо склалася, што беларускай мове выпала на долю гараваць ды пакутаваць. То расейскі ўрад яе забараняў, то польскі. Але настаў 1917 год, Кастрычніцкая рэвалюцыя зрабіла свой унёсак у развіццё нацыянальных моваў, у тым ліку і ў развіццё беларускай мовы. Спачатку гэты ўнёсак меў станоўчы кірунак. Неўзабаве пасля рэвалюцыі беларуская мова набыла статус дзяржаўнай. Але на той час яна не была добра распрацаванай літаратурна, працяглы час беларуская мова гучала толькі з вуснаў народа. Таму наспеў час паставіць задачу ўнармавання мовы, каб упарадкаваць разнабой у напісанні беларускіх слоў. Неўнармаванасць мовы перашкаджала ёй быць нармальным сродкам зносінаў паміж людзьмі. Рэформа беларускага правапісу станавілася гістарычнай неабходнасцю. І першым буйным мерапрыемствам на шляху рэформы стала акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу, якая адбылася 14-21 лістапада 1926 года. Ініцыятарам згаданай канферэнцыі стаў Інбелкульт – першы нацыянальны акадэмічны орган, які быў створаны ў 1922 годзе. Гэтая канферэнцыя была працягам так званай праграмы "беларусізацыі", афіцыйным пачаткам якой лічыцца 1924 год. У канферэнцыі па рэформе правапісу прынялі ўдзел 67 чалавек, сярод іх былі госці з-за мяжы, але на яе не змог патрапіць вядомы беларускі мовазнаўца Вацлаў Ластоўскі, якому польскі ўрад не даў дазволу выезду ў Менск. Але Вацлаў Ластоўскі змог прыняць завочны ўдзел у канферэнцыі. Асноўнымі выступоўцамі на канферэнцыі сталі Сцяпан Некрашэвіч, заснавальнік Інбелькульта, віцэ-прэзідэнт Акадэміі Навук, і Язэп Лёсік, якія мелі неаднолькавыя погляды на рэформу. Сцяпан Некрашэвіч не быў прыхільнікам карэннай ломкі моўнай спадчыны, ён падтрымліваў "Беларускую граматыку для школ" Браніслава Тарашкевіча. Язэп Лёсік прапанаваў на канферэнцыі канкрэтны праект рэформы беларускай азбукі. Лёсік лічыў, што беларуская азбука "не адпавядае ўва ўсіх пунктах гукавому пісьму... ня мае ўласнага твару". Язэп Лёсік прапанаваў наблізіць беларускую азбуку да гукавога пісьма. Апанентаў у Лёсіка на той час было больш, чым прыхільнікаў, таму прапановы Лёсіка ў сваёй большасці не атрымалі падтрымкі на канферэнцыі.

Акадэмічная канферэнцыя 26-га году мела вялікае значэнне для ўсталявання беларускай мовы, ачышчэння мовы ад залішняга ўплыву расейскай мовы. Атрымаўшы статус дзяржаўнай мовы, беларуская мова не магла больш заставацца на ўзроўні сапсаванай расейскай. Як выказаўся на канферэнцыі тагачасны старшыня Інбелкульта Ігнатоўскі: "Мы не забылі беларускай мовы, чаго баяўся Багушэвіч..."

Пасля канферэнцыі пачалася вялікая праца па ачышчэнню беларускай мовы ад ўсяго таго, што было не ўласціва яе ўнутранай прыродзе. Але, на жаль, гэтая праца не была працяглай. Беларуская мова і беларуская дзяржаўнасць не былі патрэбныя партыйнай наменклатуры. Пачынаючы з канца 20-ых гадоў, на тэрыторыі Беларусі разгортваецца барацьба з так званым нацыянал-дэмакратызмам. У дачыненні да беларускай інтэлігенцыі асаблівую падазронасць пачалі выклікаць тыя, хто выказваў заклапочанасць праблемай ачышчэння беларускай мовы ад русізмаў. У снежні 1930 г. Язэп Лёсік быў пазбаўлены звання акадэміка АН БССР. У красавіку 1931 г. яго выслалі за межы рэспублікі. У гэтым жа 31-ым годзе была выдадзена кніга С.Вальфсона "Навука на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі". Гэтая кніга пасля мела вялікае значэнне для трагічнага лёсу беларускіх пісьменнікаў, якіх абвінавацілі ў здрадзе савецкай дзяржаве і многія з якіх пазней сталі вязнямі ГУЛАГу альбо якіх увогуле знішчалі. Да працы над рэформай правапісу не быў дапушчаны адзін з самых вядомых мовазнаўцаў Браніслаў Тарашкевіч.

26 жніўня 1933 г. Савет Народных Камісараў БССР без папярэдняга абмеркавання сярод грамадскасці прыняў пастанову "Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу". Адмоўныя вынікі гэтай рэформы мы адчуваем яшчэ і зараз. Галоўнай накіраванасцю гэтай трагічнай для Беларусі рэформы была асіміляцыя мовы, набліжэнне яе да расейскай. Пасля рэформы мова стала менш абароненай ад расейскамоўнага ўплыву. Рэформа была навязаная беларускаму народу, але яе яшчэ патрэбна было замацаваць. У снежні 1933 г. па ініцыятыве партыйных структураў, якая была выказаная, як ініцыятыва беларускіх пісьменнікаў, быў праведзены агульны сход пісьменнікаў. Цэнтральнай асобай на тым сходзе стаў Андрэй Александровіч, тагачасны дырэктар Інстытута мовазнаўства, які выступіў на сходзе з дакладам "Класавая барацьба на мовазнаўчым фронце і рэформа правапісу беларускай мовы". Пра рэформу ў гэтым дакладзе Александровіч успамінаў толькі час ад часу. Галоўнае, па што ён зрабіў асноўны ўхіл, — гэта шальмаванне шкодніцтва "нацдэмаў". Вацлаў Ластоўскі ў дакладзе называўся белагвардзейскім нацдэмам. Выступ на тым сходзе Андрэя Александровіча быў не апошнім выступам у адрас тых, хто сапраўды клапаціўся пра лёс беларускай мовы. Трошкі пазней пад агульнай рэдакцыяй спадара Александровіча выйшла кніга "Пісьменнік і мова. Збор артыкулаў, прысвечаных барацьбе за культуру мовы". Змест гэтай кнігі можна было зразумець толькі па прадмове Александровіча: "Калі кнігай "Пісьменнік і мова" нам удалося нанесці яшчэ адзін скрышальны ўдар па недабітых рэштках нацдэмаўшчыны... пастаўленую перад сабою задачу... мы выканалі".

У 1937 г. пачаліся масавыя арышты беларускай інтэлігенцыі. Беларуская мова была адсунута на апошняе месца. Уплыў расейшчыны назіраўся паўсюль: зачыняліся беларускія выдавецтвы, амаль не друкаваліся беларускія кнігі, газеты, часопісы.

У час Другой сусветнай вайны на непрацяглы час беларуская атрымала сваё другое дыханне. 22 кастрычніка 1941 г. была арганізавана беларуская народная самапомач, мэтай якой на пачатку было абвяшчэнне клопату аб ахове здароўя і грамадская апека. Трошкі пазней да гэтых пытанняў далучыліся пытанні адукацыі і культуры. Напрыклад, у 1944 г. у Лідскай акрузе было 397 пачатковых беларускіх школаў.

У 1946 г. пачалася кампанія па барацьбе супраць "нізкапаклонства перад Захадам", супраць "беларускага нацыяналізму". 50-80-ыя гады характарызаваліся рэзкім звужэннем выкарыстання беларускай мовы. Калі ў 1958 г. бацькам дазволілі выбіраць мову навучання, вялікай ролі ў грамадстве гэта не мела. Дзяржава не стварыла ўмовы для таго, каб беларуская мова стала неабходнай.

Пры набыцці ў 1990 г. дзяржаўнай незалежнасці беларуская мова зноў стала дачкой, а не падчаркай у краіне, але рэферэндум 1996 г. зноў адхіліў беларускую мову далёка назад. Пакуты нашай мовы працягваюцца.

*Лілея Сазанавец.*

# Палажэнне пра бібліятэку Кніжнага клуба ТБМ

**1. Парадак фармавання бібліятэкі.**

1.1. Бібліятэка Кніжнага клуба ТБМ фармуецца выданнямі беларускай тэматыкі, друкаванымі ў Беларусі, альбо па-за межамі краіны.

1.2. Фармаванне і папаўненне бібліятэкі адбываецца:

- за кошт сродкаў ТБМ (найперш афармленне падпіскі на часопісы і газеты);
- за кошт ахвяраванняў зычліўцаў у форме вартасных выданняў беларускай тэматыкі, альбо ў грашовай форме з мэтавым прызначэннем на набыццё выданняў для бібліятэкі ТБМ

**2. Класіфікацыя кніжных фондаў бібліятэкі.**

2.1. Кніжныя фонды бібліятэкі падзяляюцца паводле наступнай класіфікацыі:

— рарытэтныя выданні:

а) выданні, друкаваныя да 1939 года;

б) выданні, друкаваныя накладам да 100 асобнікаў;

в) выданні, друкаваныя накладам да 500 асобнікаў;

г) выданні, якія маюць даравальныя подпісы аўтараў, альбо іншыя выданні, аднесеныя старшым бібліятэкарам да шэрагу рарытэтных;

— іншыя выданні.

**3. Парадак карыстання бібліятэкай Кніжнага клуба ТБМ.**

3.1. Парадак карыстання бібліятэкай адрозны для трох груп чытачоў:

3.1.1. Чытачы , якія з'яўляюцца сябрамі ТБМ і адначасна падпісчыкамі газеты "Наша Слова" (такія чытачы маюць права карыстацца чытальняй, а таксама браць для чытання дома нерарытэтныя выданні і, у выключных выпадках, пад заклад – рарытэтныя выданні).

3.1.2. Чытачы, якія не з'яўляюцца сябрамі ТБМ, але з'яўляюцца падпісчыкамі газеты "Наша Слова" (такія чытачы маюць права карыстацца чытальняй, а таксама браць для чытання дома нерарытэтныя выданні, якія знаходзяцца ў бібліятэцы ў колькасці больш чым адзін асобнік).

3.1.3. Іншыя чытачы (маюць права карыстацца чытальняй).

3.2. Чытачамі бібліятэкі з'яўляюцца асобы, якія адпавядаюць названым патрабаванням і на якіх ва ўстаноўленым парадку заведзены бібліятэчны фармуляр.

3.3. Для чытання дома выданне не можа выдавацца на тэрмін, больш за 14 каляндарных дзён. Чытач, які здзейсніў пратэрміноўку па непаважанай прычыне пазбаўляецца права карыстання бібліятэкай і губляе грашовага закладу (кожны дзень – 5% ад агульнай сумы).

**4. Функцыі бібліятэкараў.**

4.1. Бібліятэкарам бібліятэкі Кніжнага клуба ТБМ можа быць афіцыйна зарэгітраваны сябар ТБМ, зацверджаны на гэтую пасаду Сакратарыятам ТБМ. Загадчык бібліятэкі прызначаецца з шэрагу бібліятэкараў Сакратарыятам ТБМ па хадайніцтве кіраўніка Кніжнага клуба.

4.2. Функцыі бібліятэкараў:

- Па меры папаўнення кніжнага фонду праводзіць каталагізацыю выданняў.
- У агульнапрынятым парадку заводзіць падпісныя фармуляры на чытачоў бібліятэкі.
- Выдаваць выданні ў карысмтанне ў агульнаўстаноўленым парадку і з выкананнем дадатковых умоваў, выкладзеных у гэтым Палажэнні.
- Сачыць за своечасовасцю вяртання кніг і іх захаванасцю. Пра выпадкі несваечасовага вяртання паведамляць Загадчыку бібліятэкі для сумеснага прыняцця адпаведных мер. У выпадку страты кнігі ставіць у вядомасць Кіраўніка Кніжнага клуба ТБМ для сумеснага прыняцця мер па замяшчэнні страчанага выдання раўнавартасным, альбо пакрыццю кошту страты закладам.
- Штодватыдні рыхтаваць і друкаваць у "Нашым слове" спісы выданняў, паступіўшых у бібліятэку.
- Своечасова папаўняць электронны каталог бібліятэкі.
- Праводзіць іншую бібліятэчную дзейнасць.

## А калі глянуць праўдзе ў вочы?

Нацыянальнае пытанне, якое ўзнікае між пануючай нацыяй і падуладнымі народамі мае рознае тлумачэнне з абодвых бакоў. Для Беларусі гэтая праблема актуальная і сёння. Ды не толькі для Беларусі. Дый не толькі сёння.

Тлумачэнні гэтай з'явы я напаткаў зусім выпадкова. Неяк нядаўна мне трапіўся адзін бальшавіцка-партыйны рэлікт: пяты том складанняў Іосіфа Сталіна. Сярод тых "шчырых" камуністычных выказванняў па ўсіх пытаннях тагачаснага жыцця ў гэтым тастаменце "правадыра ўсіх народаў" давялося прачытаць адну прарасейскую імперскую шчырасць. Яна была выказана тры чвэрці стагоддзя таму назад, але сёння не згубіла ніякай актуальнасці.

Вось гэтыя развагі:

"А калі нельга ў дватры і нават дзесяць гадоў падняць істотна рускую культуру (маецца на ўвазе культуру простага народа. Я.П.), то як жа можна патрабаваць паскарэнне падняцця культуры ў абласцях нярускіх, адсталых, непісьменных..."

Якія могуць быць тут тлумачэнні. Адладжаная імперская сістэма толькі трохі колер змяніла на колер крыві – чырвоны. Гвалтоўна знішчанага расейскага цара замяніў інародзец, але ён праводзіў тую ж палітыку, што і яго папярэднікі.

Іосіф Вісарыёнавіч казаў шчырую праўду; як сваімі вуснамі, так і вуснамі былых кіраўнікоў расейскай дзяржавы. Ніхто з іх, ні цары, ні імператары – папярэднікі Сталіна – не збіраліся ўздымаць культуру простага расейскага народа. Іх палітыка мела іншы кшалт. Асіміляцыю народаў паднявольных ускраінаў яны праводзілі праз выключна расейскія школы, гарматамі ды гарэлкаю. Як не гаманілі бальшавікі ў час свайго панавання пра ўздым культуры народаў СССР, яна засталася на ўзроўні дробнага шырпатрэбу.

Што было раней, то на абшарах гэтае дзяржавы засталося і зараз. За прыкладамі далёка хадзіць не будзем. Вось прадзяржаўная тэлевізійная кампанія ГРТ паказвае рэпартаж з Дагестана. Звярніце ўвагу на гэтыя паведамленні. Журналісты выбіраюць толькі тыя асобы, што з выключна каўказкім акцэнтам перад тэлекамерай прызнаюцца ў каханні расейскаму народу ды вернасці расейскай імперыі і дзякуюць расейскаму войску за знішчаныя аўлы ды разбураныя саклі.

Тут разважаць можна доўга, але безвынікова. Пры ўсім гэтым зразумела толькі адно, што Расіі непатрэбна было развіццё культуры і мовы падуладных народаў. Не спрыяла яна таму пры царскай уладзе, не здзейснілі таго бальшавікі, не клапоцяцца пра культуру і мову іншых народаў і цяперашнія дэмакраты.

У выпадку ўз'яднання Беларусі і Расеі не расквітнее нашая мова і нашую культуру заменіць расейскае папса.

*Язэп Палубятка.*





# СУЧАСНЫ ГВАЛТ НАД МОВАЙ

Адзін з вершаў Г. Бураўкіна (без назвы) пачынаецца радкамі:

***"Чорнай навалай***
***коціцца зверху***
***Гвалт нябывалы,***
***раз'ятраны вэрхал.***
***У кіраўнічых суровых***
***прамовах***
***Бэсціцца зноў***
***беларуская мова:***
***Быццам бы наскія***
***словы не здатны***
***Выказаць талент***
***і розум выдатны".***

У гэтых словах паэта чуваць балючы водгук на той гвалт нечувалы, што "коціцца зверху". А найперш гэта рэакцыя на выказванне нашага прэзідэнта, які праз некалькі месяцаў пасля клятвы (па-беларуску) на Канстытуцыі прамовіў 1 снежня 1994 года на "великом, могучем, правдивом" (цытуецца па газеце "Имя", № 22): *"Люди, которые говорят на белорусском языке, не могут делать ничего, кроме как разговаривать на белорусском языке, потому что по-белорусски нельзя выразить что-то большое. Белорусский язык – бедный язык. В мире существует только два великих языка – русский и английский".*

Цяжка ўявіць, каб у якой-небудзь іншай краіне яе кіраўнік так абразліва і здзекліва выказаўся пра мову свайго народа. А мы, людзі памяркоўныя, з аслабленай нацыянальнай ментальнасцю, моўчкі праглынулі горкую пілюлю, некаторыя ж, "тожа беларусы, з пароды рэнегатаў і дэгенератаў" (Я.Купала), пляскалі ў ладкі ад захаплення.

А вось і некаторыя катастрафічныя вынікі "чорнай навалы". У рэзалюцыі Кангрэса дэмакратычных сілаў Беларусі (30.01.1999 г.) і іншых публікацыях падаюцца гаваркія лічбы. Колькасць першакласнікаў, якія вучыліся па-беларуску, скарацілася з 75% у 1993-1994 навучальным годзе да 28 % у 1997-1998 навучальным годзе, а ў сталіцы паказчыкі проста жахлівыя: адпаведна з 58% да 4,8 %. У Магілёве ж у 1997 – 1998 навучальным годзе наогул не праводзілі набор у першыя беларускія класы. За апошнія пяць гадоў зачынена каля 600 беларускіх школ. Дайшло да таго, што ў сваёй краіне праз пікеты бароняць сваю мову.

Як піша прафесар Л. Лыч, "амаль усе сферы нашага нацыянальнага духоўнага жыцця апынуліся ледзь не на самай апошняй мяжы асіміляцыі". А гэта словы Ніла Гілевіча: "Даходзіць да нечуванага нахабства, да публічнага здзеку з усяго народа: у газетах, што выходзяць у суверэннай дзяржаве Беларусь, публікуюцца матэрыялы, адкрыта скіраваныя супроць беларускай нацыянальнай ідэі і беларускай дзяржаўнасці, матэрыялы, якія не толькі заклікаюць ліквідаваць нашу дзяржаву, загнаць яе ў склад Расейскай Федэрацыі, але і адкрыта абвяшчаюць, што наогул ніякага асобнага самастойнага беларускага этнасу, беларускага народа, не было і няма і што ніякай асобнай самастойнай беларускай мовы не было і няма. Удумаемся толькі, што гэта такое! Дзесяцімільённаму славянскаму народу публічна крычаць у твар "цябе няма!", публічна абражаюць і здзекуюцца самым нахабным чынам, і няма каму за яго заступіцца: дзяржава і не чуе, і не бачыць, дзяржава не хоча прызваць яўна ашалелых ворагаў беларушчыны да парадку, прыцягнуць да адказнасці. Які і дзе ў свеце ўрад пацярпеў бы такое? Нідзе – ніякі. Толькі ў адной краіне свету магчыма такое – у Беларусі. Дык што гэта, дазвольце спытаць, за дзяржава? І што за дзяржаўныя мужы ёю кіруюць?"

"Частуецца пойлам атрутным народ наш з катлоў тэлерадыё" (В.Зуёнак). І вынікі атрутнага частавання відавочныя. Гадоў пяць – шэсць таму можна было чуць беларускую мову ва ўстановах, на вуліцы, у аўтобусах, тралейбусах... Людзі адчулі сваю нацыянальную годнасць, вярталіся да вытокаў, многія ўжо не саромеліся і без аглядкі пачыналі гаманіць на мове дзядоў і прадзедаў. А цяпер? Загавары па-беларуску, дык і міліцыя можа затрымаць, і "тожа беларусы" касавурацца. Як піша чытачка "Нашага слова" (6.01.1999 г.) Я. Судзілоўская, у краме ці ў іншым грамадскім месцы яе размову на тытульнай мове прыпыняюць лямантам: "Бэнээфаўка!"

Сёння над намі навісае рэальная пагроза страціць дзяржаўную незалежнасць у выніку далучэння Беларусі да Расеі. Што чакае нашу мову ў такім разе? Канчатковы заняпад і знікненне?

Дык ці трэба сёння губляць адчуванне часу і прасторы ды разважаць на старонках друку (і "Нашага слова" ў тым ліку) пра такія, напрыклад, пытанні, як магчымасць пераходу з сучаснага шрыфту на лацінку, пра вяртанне да тарашкевіцы, ужываць і настырна прапагандаваць асобныя словы ці іх формы, лічачы толькі іх самабытнымі, сапраўднымі, чыста беларускімі і адмаўляючы іншыя – прывычныя, нарматыўныя? Калі і трэба, дык толькі без лішняга суб'ектывізму.

Два словы пра лацінку. Ёю карысталіся, паралельна з "грамадзянкай", на пачатку стагоддзя. І "Наша ніва" да 1913 года друкавалася двума шрыфтамі. А пасля з-за матэрыяльных цяжкасцяў і па іншых прычынах перайшла на "грамадзянку" – рэфармаваную кірыліцу. Перад гэтым было апытванне чытачоў. Абсалютная большасць (і Я.Купала так-сама) – за кірыліцу. У № 42 за 1912 год газета паведамляла: "Калі нельга друкаваць двума шрыфтамі, трэба выбраць адзін: рускі. Так пісалі ўсе свядомыя беларусы, апрача невялікай жмені". Кірыліцай друкавалі Ф.Скарына, С. Будны і іншыя ў Вялікім княстве Літоўскім на працягу стагоддзяў. Так што наўрад ці варта гаварыць пра пераход на лацінку не толькі сёння ці заўтра, але і наогул.

Правільна кажуць, што двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма. Так і з тарашкевіцай. Гэта ўжо пройдзены этап. У XX стагоддзі арфаграфічнае рэгуляванне праводзілася ва ўсіх славянскіх мовах; напрыклад, у польскай мове тройчы (1918, 1936, 1957 г.г.). Калі ў Расеі ў 1918 годзе спецыяльным дэкрэтам бальшавікі адмянілі напісанне цвёрдага знака на канцы слоў, выключылі з алфавіта ***яць, фіту***, унеслі многія іншыя змены, то ні тады, ні цяпер нікому і ў галаву не прыходзіць зноў вярнуць, скажам, той жа цвёрды знак. І ў нас няма патрэбы, як гаварпыў В. Вітка, "рэанімаваць правапіс, якога не прыняла і даўно адкінула жывая народная мова".

Канешне, пры зусім іншай, спрыяльнай палітычнай сітуацыі што-нішто можна было б вярнуць. Вось і Г.Бураўкін у гутарцы з карэспандэнтам "ЛіМа" гаворыць: "Я, напрыклад, рашуча за выкарыстанне мяккага знака, а вось з іншым не спяшаўся б. На "наркамаўцы" вырасла некалькі пакаленняў. Сярод тых, хто пісаў на ёй, выдатныя таленты – Куляшоў, Мележ, Караткевіч, Панчанка..."

А той правапіс, якім карыстаецца сённяшняя "Наша ніва", — гэта ўжо далёка не тарашкевіца. Гэта толькі яе варыянт, абноўлены і дапоўнены Антонам Лёсікам, Янам Станкевічам і інш. Некаторым аўтарам "Нашага слова" (№№ 1,2 за 1999 г.) хацелася б, каб газета перайшла на тарашкевіцу, бо гэта правапіс, на іх думку, робіць беларускую мову мяккай, мілагучнай. Але гэта толькі здаецца. Якая ж мілагучнасць ды мяккасць, скажам, у такіх прыкладах з сучаснай "Нашай нівы", як ***мэтады, клясычны***? І тарашкевіца не такая ўжо лёгкая ды бездакорная.

Мне ўжо даводзілася гаварыць, што пра тарашкевіцу пішуць і такія аўтары, якія, мякка кажучы, не вельмі добра знаёмыя з самой "Беларускай граматыкай для школ" Б. Тарашкевіча. А між тым аўтар гэтай граматыкі ў прадмове да 5-га выдання (1929) пісаў, што ён выразна бачыць "цэлую чараду яшчэ спрэчных пытанняў (у аканьні, у правапісе чужаземных слоў і інш.)", бачыць "патрэбу і магчымасць спрашчэньня правапісу, але не бярэцца праводзіць якія-колечы паважнейшыя зьмены такім індывідуальна-партызанскім спосабам", бо "гэта павяло б толькі да шкоднага хаосу". Ён прызнаваў неабходнасць правапіснай рэформы і слушна лічыў, што апрацаваныя паасобнымі людзьмі адпаведныя праекты павінны "прайсьці праз публічнае сіта грамадзкай і навуковай крытыкі перш, чым маюць быць уведзены ў жыцьцё аўтарытэтам культурных установаў. Бо тутака пасьпех, запраўды, можа быць людзём на смех".

Сённяшняя валтузня вакол тарашкевіцы – толькі на карысць таму гвалту над мовай, што чыніцца на дзяржаўным узроўні. Яшчэ ў 1993 годзе Васіль Быкаў з вышыні свайго генію бачыў: "Нацыянальна свядомая частка грамадства наіўна кідаецца ў спрэчку наконт пераваг дзвюх граматык – Тарашкевічавай і наркомаўкі..., а ў той час камуністычныя ўлады прыбіраюць пад сваю апеку ўвесь друк, маючы на мэце канчаткова ўсталяваць расійскае аднамоўе".

У кастрычніку 1997 года ў Беларускім дзяржаўным універсітэце была праведзена міжнародная навуковая канферэнцыя "Беларуская мова ў другой палове XX стагоддзя". І на самой канферэнцыі, і ў спецыяльна прынятай рэзалюцыі гаварылася пра тое, як у апошнія гады рэзка абмежавалася сфера прымянення беларускай мовы і што гэта ставіць яе на мяжу вымірання. У рэзалюцыі сярод важкіх рашэнняў звяртаецца ўвага і на "недапушчальнасць грубых адхіленняў ад нормаў беларускай мовы ў сродках масавай інфармацыі". Гэта рашэнне, слушнае для любога перыяду ў развіцці мовы, асабліва актуальнае ў сённяшняй сітуацыі.

Нярэдка ў нас у паняцце нормы ўкладваюць нешта расплывістае і неадназначнае. Аказваецца, напрыклад, што ў нас асобны носьбіт мовы можа сам устанаўляць норму, праводзіць унармаванне літаратурнай мовы, скарыстоўваць замест узаконенага слова нейкае іншае і безапеляцыйна толькі яго прызнаваць нарматыўным. Але ж ва ўсіх краінах свету нормы ўтвараюцца самой маўленчай практыкай людзей, а не выдумляюцца асобным чалавекам, хто б ён ні быў: пісьменнік, мовазнаўца, журналіст і г.д.

Літаратурная мова, як найвышэйшая форма нацыянальнай мовы таму і называецца літаратурнай, што пачынае сваё жыццё ў літаратуры, найперш мастацкай, а пасля становіцца агульнанародным здабыткам. У падмурку сучаснай беларускай літаратурнай мовы ляжыць мова В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я.Купалы, Я. Коласа і іншых літаратараў.

Каб мова, як найважнейшы сродак зносін магла найлепшым чынам ажыццяўляць свае функцыі, яна павінна быць унармаванай. Паняцце нормы слушна лічаць цэнтральным у азначэнні літаратурнай мовы. Сучасная беларуская літаратурная мова такая ж унармаваная, як і іншыя развітыя літаратурныя мовы. Праўда, у ёй, як і ў любой іншай, ёсць аслабленыя ўчасткі, якія патрабуюць падтрымкі.

Нормá – гэта сукупнасць правіл, прынятых у дадзены перыяд моўным калектывам і ўсвядомленых ім, як правільнае і ўзорнае ўжыванне моўных сродкаў. Ёсць нормы арфаэпічныя, акцэнталагічныя, словаўтваральныя, марфалагічныя, сінтаксічныя, фразеалагічныя, лексіка-сематычныя, стылістычныя, а таксама ўласцівыя толькі пісьмоваму маўленню арфаграфічныя і пунктуацыйныя. Моўныя нормы, як ужо гаварылася, складваюцца ў працэсе самой маўленчай практыкі і спачатку існуюць як "нянісаныя правілы", якія рэгулююць вымаўленне, націск, утварэнне слоў і іх формаў, ужыванне слоў, фразеалагізмаў, прыказак, пабудову словазлучэнняў і сказаў. Афіцыйнае прызнанне нормы называецца яе кадыфікацыяй. Кадыфікацыя – гэта "пісанае правіла", пісьмовая фіксацыя нормы ў нарматыўных граматыках, даведніках і слоўніках.

Кадыфікаваная, узаконеная норма становіцца абавязковай для ўсіх носьбітаў мовы.

У нас, аднак, для некаторых людзей моўныя нормы – не закон. Яны "ездзяць па левым баку". Напрыклад, на старонках "Нашай нівы" не толькі свой правапіс, удасканаленая тарашкевіца, але і шэраг "сваіх" слоў. Так, у літаратурнай мове ёсць ***сёння*** і ***сягоння***, і ў Я.Купалы гэтак жа: "А сёння... Сёння што?", "А сягоння ўжо не тое". Гэтак жа ў Я.Коласа, З.Бядулі, К.Крапівы, Я.Брыля і іншых аўтарытэтных аўтараў. Тое самае і ў граматыцы Б.Тарашкевіча: ***сягоньня*** (с.30), ***сёньня*** (с.104). А ў "Нашай ніве" – толькі ***сяньні***. Ужыванне ў якасці састаўнога іменнага выказніка канструкцыі ***"ёсць + творны склон"*** – непатрэбнае запазычанне з польскай мовы яе сінтаксічнай асаблівасці, не характэрнай для нашай як літаратурнай, так і дыялектнай мовы. Апошнім часам, аднак, заўважаецца нічым не апраўданая спроба перанесці гэту канструкцыю ў літаратурную мову: ***"Натуральнымі ёсць тэрміны...", "Недахопам слоўніка ёсць і тое, што ў ім падаюцца штучныя дублеты".***

Сустракаецца гэта канструкцыя і ў "Нашым слове", асабліва часта ў гомельскага аўтара С. Балахонава (№№ 2,4,14 за 1999 г.): "Выкараненне з мовы рознага кшталту барбарызмаў ё дужа важнаю справай", "Секс жа ёсць неадоймнаю часткай чалавечага бытнавання" і г.д. У нататках гэтага ж аўтара ёсць дзесяткі пазалітаратурных слоў: неадоймны, панятак, даведзіны, абдоймы, узвычленне, прыгнобіць, духова, гляд, пахацімства, бачына, міталёгія, наапошку... Замест "аднак" аўтар ужывае "адылі", а ў якасці злучальнага злучніка (замест "і") выступае "а": "Міцкевічу а Пушкіну", "прыхільнасцяў а непрыхільнасцяў", "цікавае а нават карыснае" і інш. Такое ўжыванне "а" замест "і" ўжо як бы і ўзаконьваецца, бо ў нядаўнім нумары "Нашага слова" (№32) рускі тэкст "Мы ели даром огурцы, и дыни, и лук, и репчатый лук, и чеснок" падаецца "ў беларускім сучасным" перакладзе так: "Мы елі дарма гуркі, а дыні, а пор, а цыбулю, а часнок". Гэтыя "адылі" і "а" – вузкадыялектныя словы, сустракаюцца яны толькі ў некаторых мастацкіх тэкстах М.Гарэцкага ("возяць а возяць", "едуць а едуць"). Яны не замацаваліся ў літаратурнай мове, і, калі дбаць пра літаратурныя нормы і чысціню маўлення, дык няма абсалютна ніякай патрэбы ажыўляць іх, жывасілам цягнуць на "бачыны" газеты. Дарэчы, С. Балахонаву вельмі хацелася б, каб "Наша слова" перайшло на тарашкевіцу.

Чытаеш такія штуковіны, і, прызнаюся, грэшная думка лезе ў галаву: а ці не робіцца гэта знарок, каб дыскрэдытаваць мову ў вачах і без таго маленькай жменькі яе носьбітаў ды адпужаць ад яе тых, хто мог бы яшчэ далучыцца да гэтай жменькі... Сам бачыў, як ў часе пікета многія беларусы (гаварылі са мной па-беларуску) востра і непрыязна рэагавалі на плакаты пікетчыкаў з надпісамі? "Адраджэньне", "Вызвольны рух" і іншыя. Абураліся: "А на якой мове тут напісана?"

"Цяпер, — піша В.Быкаў, — не трэба быць вялікім прáвідцам, каб зразумець важнасць для нацыі адзінай літаратурнай мовы, якую трэба ўсямерна шанаваць, берагчы...", а не разбураць "нацыянальнае адзінства літаратурнай мовы... моўным эксперыментатарствам, стылявымі і лексічнымі пошукамі на ... перыферыі".

***Іван Лепешаў, доктар філалагічных навук, прафесар Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.***

**АЛЕСЬ ПЕТРАШКЕВІЧ**

# ІНТЭЛІГЕНТЫ

**Драма ў дзвюх дзеях**

**Менск – 1998**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах)*

**БАЗЫЛЬ.** Я не чытаю "Народную волю", а то неяк быў узяў, а там словы: "... дзіўны наш народ. Дужы і сумны... Меў герояў і ніхто іх не ведае... Усё жыццё любіў волю – і яго прымусілі стаць рабом... Стварыў багацце культуры – і сам яе не ведае... Аднак, не ўсё яшчэ страчана. Ёсць пакуль наш шанец, можа, апошні, усвядоміць сябе людзьмі, народам з Вялікай гісторыяй і культурай, аднавіць тое, што амаль згублена, каб паказаць, што "жывы яшчэ наш народ, і жыць ён хоча, і жыць ён можа, і жыць ён будзе".

Такія вось словы. Апошнія – у двукоссі. А каму належаць, да сораму свайго, не ведаю...

**ЯНКА** *( з вялікім сумам).* Харошыя словы... толькі наўрад ці спраўдзяцца... *(Закурвае).*

**БАЗЫЛЬ**. Не ведаю ніводнага сапраўднага паэта, каб той не быў пісімістам...

**ЯНКА.** Відаць, гэта ад таго, што ўсе сапраўдныя паэты адначасова і багацеі, і жабракі. Асноўны іх скарб – слова. Жывуць і пакутуюць – ці хопіць слоў і жыцця, каб сказаць калі на ўсё, то хоць галоўнае... хоць нешта з галоўнага... /

**БАЗЫЛЬ** *(задуменна, ціха).* Мне б твае пакуты, Іване. Мне б твае турботы...

**ЯНКА.** Забарона школы і выцясненне з ужытку беларускай мовы пазбавіла нацыю беларусаў генія Адама Міцкевіча і шэрагу іншых талентаў, што сталі гонарам польскай культуры і навукі. *(Пасля доўгай паўзы.)* У вагоне, як да цябе ехаў, толькі вока звёў... і перастук колаў чую, і гудок цягніка... і ў той жа час бачу – сядзіць насупраць Іван Дамінікавіч...

**БАЗЫЛЬ.** Хто?

**ЯНКА.** Янка Купала...

**БАЗЫЛЬ**. ???

**ЯНКА**. У плашчы, пры капелюшы, знакамітая палка ў руках. І глядзіць так з усмешкай... нібы з жалем, нібы з папрокам. Няёмка неяк, нязвыкла... пачынаю тузацца і ... прачынаюся...

**БАЗЫЛЬ.** Трэба ж такое...

**ЯНКА** *(сам сабе, імправізуе).* Ах, Іван... Ах, Іван Дамінікавіч, сэрца, сэрца знямогла ад болю – мова народа вялікага, нібы птушка, ірвецца на волю. Б'ецца, трапечацца, а не пускаюць раўнадушша нашага краты... Вырвецца, родная, нават не знаю, хто будзе рады? Хто будзе рады? Адвярнулі народ наш ад мовы. А што нам пакінулі? Піць? Ды лаяцца? Вось і п'ём, прапіваем апошняе слова... Ах, Іван Дамінікавіч, усё паўтараецца... Чуеце, там, дзесь далёка-далёка ваша жалейка плача? Божа высокі, Божа высокі, мы звар'яцелі, няйначай... Што ж мы кідаемся матчынай мовай, нібы апошнія грэшнікі... Уецца, струменіцца звонкай падковай светлы раўчук між алешніку...

**БАЗЫЛЬ.** А Ён сказаў, што геніяльны твор можна напісаць на любой мове, былі б толькі здольнасці...

**ЯНКА.** Трэба не мець элементарнага ўяўлення аб мове і літаратуры, і наогул клёку ў галаве, каб не ведаць, што геніяльнае ў літаратуры можна стварыць толькі на роднай мове.

**БАЗЫЛЬ.** Тады чаму Ён так сказаў?

**ЯНКА.** На Яго растаропны розум гэта так. Ён у нас не толькі занадта разумны, але і дужа смелы. Яго не палохае нават чарнобыльскі апакаліпсіс. Ён перакананы, што ў зоне і вакол яе можна жыць і працаваць, што туды наогул пара вяртацца, бо эвакуацыя нібыта была вынікам эйфарыі. З чым Ён пераблытаў тэрмін, які азначае беспадстаўнае радаснае ўзбуджэнне і больш нічога, не вядома, як не вядома і тое, каб нехта разумны скакаў ад радасці з прычыны ўзрыву рэактара.

**БАЗЫЛЬ**. Ну, Ён не скакаў... І навошта чапляцца да чалавека?..

**ЯНКА.** Вядома, тады не скакаў... Затое пасля моўчкі, у "эйфарыі", відаць, таптаў тых чарнобыльцаў салдацкімі ботамі, біў па галовах гумавымі дубінкамі, палохаў сталёвымі шчытамі і цягнуў у турмы на колах і ў пастарункі сотнямі, калі тыя з абразамі і званамі толькі ступілі на свой пакутны шлях. Толькі зрабілі першы крок да ратунку...

**БАЗЫЛЬ.** А што можна было зрабіць іншае? Чакаць, пакуль стыхія ахопіць горад і Яго разарвуць на кавалкі, як таго Чаушэску.

**ЯНКА.** Сапраўды...

**БАЗЫЛЬ**. Вось бачыш... Не было, відаць, іншага выйсця...

**ЯНКА** *(пераварочвае партрэт тварам да сцяны).* У Яго не было выйсця, і Ён загнаў яе ў пятлю. Сёння ў Яго таксама няма выйсця, і заўтра Ён загоніць у чужую дзяржаву цэлы народ і ніякі Маісей яго ўжо ніколі не выведзе з новага палону... Нацыю размыюць, асімілююць... Вось чаму я перастаю верыць, што народ наш жыць зможа, што ён жыць будзе. І выміраць ён будзе не толькі ў чарнобыльскай зоне. Ён будзе выміраць яшчэ і ў новым палоне...

**БАЗЫЛЬ.** Бог з табою, Янусь!.. Казаць такое перад сном...

**ЯНКА.** Не палохайся, не бойся. Усе даўно спяць спакойна, убаюканыя бальшавіцкімі сірэнамі яшчэ ў тыя часы, калі чэрава чудзішча, збудаванага вялікім расійскім умельцам Аляксандравым "со товарищи", разверзлася, а яго смертаноснае дзярмо заліло і засыпала ўсё жывое на нашай зямлі.

**БАЗЫЛЬ.** Ну, не толькі ж на нашай...

**ЯНКА.** Тады радуйся, што і ў суседа конь здох, і хоць ў самога пуня згарэла, але і мышэй троху ляснула... Мільёны людзей паміраюць сёння ціхай смерцю. А высокія зладзеі сусветнай катастрофы збеглі з месца злачынства веку, пакінуўшы на волю лёсу ахвяры сваёй безадказнасці і бяздарнасці. Больш за тое, іх дзяржаўныя спадкаемцы назіраюць сёння з свайго Маскоўскага далёка за тым, каб вызначыць, у які момант і на колькі віткоў павярнуць вентыль заглушкі нафтавода на Беларусь. Чакаюць энергетычнага калапсу, каб блаславіць яшчэ адно наша "добровольное вхождение" у Расію. Блаславіць некалі скрадзеным у нас крыжом Еўфрасінні Полацкай. Яны там, за Крамлёўскай сцяной, ведаюць, дзе ён ляжыць да пары.

**БАЗЫЛЬ.** Не ведаю, навошта табе займацца палітыкай?! Навошта падсоўваць галаву пад гальяціну?!

**ЯНКА.** Я не займаюся палітыкай. Я проста не магу маўчаць, калі не ратуюць народ ад атамнай смерці, а займацца "мінімізацыяй паследкаў аварыі..." Слоўца якое мілае, мяккае, нават ласкавае прыдумалі – мінімізацыя... А маскоўскія акадэмікі наогул лічаць, што пры 35-ці кюры забруджанасці жыць нават карысна, як на тым радонавым курорце. А свае акадэмікі-халуі запусцілі ідэю пабудовы сваёй атамнай станцыі, з адзінай мэтай – адцягнуць увагу ад той мінімізацыі смерці... Хіба не бачна тэндэнцыя наогул забыць пра катастрофу веку, нават не ўспамінаць яе, нібы нічога і не было. Так, дурны сон прысніўся!

**БАЗЫЛЬ.** І зноў ты... Ну, а калі гэта не так... Калі табе гэтага не зразумець... Я, канечна, не хачу цябе неяк прынізіць ці абразіць, але ж... Ну, не фізік жа ты, не хімік, не ядзершчык...

**ЯНКА** *(гарачыцца).* Вы нічога не ведаеце! Вы глухія цецерукі, сляпыя краты, даверлівыя дзеці! Разверзлася пашча апраметнай! Ашчэрылася само пекла, а вы і не заўважылі. Вы паверылі, што адбылася проста аварыя на аб'екце. Але ж ніхто не ведае, калі гэты аб'ект рване ў другі раз, бо ніхто не ведае, што там тварыцца ў разбураным рэактары. Мы нават уявіць не хочам ці не можам, што нам на галаву звалілася 350 хірасімскіх бомб. Яны падымалі ў паветра тысячы тон радыенуклідаў 450-ці тыпаў. І ўсе яны аселі нам на гало-вы і пад ногі. Паўраспад іх будзе ісці ад некалькіх дзе-сяткаў да чатырнаццаці мільярдаў гадоў. Якая міні-мізацыя, калі два з паловай мільёны нашых людзей жывуць, працуюць і харчуюц-ца тым, што дае забруджа-ная зямля і вада?! Вось ужо сапраўды эйфарыя ад ананізму "власть придержащих" на відавоку ўсяго свету. Сухадрачаць рукасу і каторы год, а мы думаем, што яны нас ратуюць...

**БАЗЫЛЬ.** Не згушчай... Усё ж нешта робіцца...

**ЯНКА.** Нешта робіцца... Вам забілі глузды манаю, а я быў там – і ў эпіцэнтры, і ў трыццацікіламетровай зоне, і вакол яе. І не дзень, не два, не наездам у бронетранспарцёры і са сваімі прадуктамі і пітвом.

**БАЗЫЛЬ.** Ну, не адзін ты быў...

**ЯНКА.** Па ўласнай волі бязвыездна быў толькі я, і Яна – наездамі. *(Глядзіць на фотаздымак дзяўчыны ў белым).*

**БАЗЫЛЬ.** Яна не прызнавалася, але я здагадваўся...

**ЯНКА.** Вайскоўцы былі па загаду, начальнікі ад страху перад большымі начальнікамі, а мы самі па сабе.

**БАЗЫЛЬ**. Здуру, ці як?..

**ЯНКА**. Хутчэй – ці як...

**БАЗЫЛЬ.** Псіхаваныя...

**ЯНКА.** Можа псіхаваныя, а можа і не... Зразумець хацелі...

**БАЗЫЛЬ.** І зразумелі?..

**ЯНКА**. Таго, што адбылося, і не з рэактарам, а з людзьмі, яшчэ ніхто не зразумеў. У адваротным выпадку ўсё павінна было б быць інакш. Па іншаму павінна было б быць!.. Як табе патлумачыць?.. Свет перакуліўся, а людзі ходзяць, як хадзілі. Не заўважаюць, не разумеюць, што апакаліпсіс пачаўся. Атрымаўшы ўдар дубінкаю ад свайго выхаванца, Яна, бадай што, першая зразумела; хто мы, што мы і якія мы перад тварам смяротэльнай небяспекі... Яна яшчэ тады сказала: зразумець Чарнобыль – гэта зразумець людзей. Я думаю, яна вельмі абагульняла гэта паняцце – зразумець людзей.

**БАЗЫЛЬ** *(пасля доўгай паўзы).* Ты і там чытаў ёй вершы, а яна цалавала кветкі?..

**ЯНКА**. У зоне кветкі страцілі пах. Не пахнуў нават бэз і лілеі. *(Сам сабе.)* Лілеі на цёмнай вадзе... Яна не цалавала там нічога і нікога. І вершаў, бадай што, не чакала. Я сам прачытаў ёй толькі "Плач Ераміі". *(Цытуе па памяці.)* "Зерне сохне, калі без раллі. Без спагады і раны не гояцца. Горка плачу аб гэтай зямлі, вечным смуткам душа мая поўніцца. Край багаты ваш стане пустым. Абязлюдзеюць вашы хаціны. Зарастуць і здзічэюць сады. Вецер плач разнясе па пустыні. Статкам дойным не пасвіцца тут. Па сялібах блукаць воўчым зграям. Ад нясцерпных, бясконцых пакут знемагае душа, знемагае... Ва-шы дочкі і вашы сыны будуць сыпаць на галаў праклёны, хоць не будзе ў тым вашай віны. Стане ваша зямля пракажонай. Ад яе адвярнуцца ўсе, хоць была не абдзелена лёсам... Скруху чорны крумкач прынясе, і жахнуцца ад гора нябёсы... Травы спелыя вам не касіць, і быллём парасце ваша по-ле... Па зямлі вам сваёй галасіць і ўначы прачынацца ад болю...

**БАЗЫЛЬ**. Ад такога і без дубінкі ў пятлю палезеш. Я цяпер яе разумею...

**ЯНКА** (перапыняе). Мне, паэту, сам Бог, здаецца, наканаваў разумець людзей... Чаму ж я цябе, Базыль, зразумець не магу?.. Чаму ты не хочаш вылезці са сваёй шкарлупіны, каб уцяміць, што з намі і вакол нас дзеецца?! І, наогул, навошта ўвесь гэты маскарад... з "адзідасам", "Выбаровай", еўрарамонтамі і бібліятэкай, вывезенай да дачкі?..

**БАЗЫЛЬ.** Законнае пытанне... І сорамна... А наогул, я перад табою як на далоні з усімі сваімі бэбахамі. (Абводзіць пакой рукою).

**ЯНКА.** А то я не здагадаўся, які можа быць еўрарамонт у кануры, дзе Хрушчоў не паспеў аб'яднаць столь з падлогаю, як прыбіральню з ваннай. І чатырохпакаёвай кватэры ў вас ніколі не было...

**БАЗЫЛЬ.** Усё жыццё чакаў, а цяпер ужо і не трэба. І рабаўнікі не ў суседа, а ў мяне пакінулі "Выбарову" і даляры...

**ЯНКА.** Бачыш, нават яны сказалі, што так жыць нельга. *(Амаль крычыць.)* Нельга так жыць, Базыль! Нельга!..

**БАЗЫЛЬ.** Сказаць кожны можа...

**ЯНКА.** І ніякі ты не супрацоўнік міністэрства, і не дырэктар, і нават не настаўнік.

**БАЗЫЛЬ.** Яны выперлі мяне са школы з-за Яе. Нават на паўстаўкі, на пагадзінныя не пакінулі.

**ЯНКА.** Цяпер ты проста член збанкрутаваўшай партыі...

**БАЗЫЛЬ**. Член – ён і ёсць член. Аддаў узноскі не хапіла на камунальныя паслугі... А бібліятэкі шкада. І перад нябожчыцай сорамна. Яна збірала яе з любоўю і розумам... Спусціў апошняе, калі ўжо ў "адзідасе" без споднягa застаўся. І камуфляжная куртка і коўдра таксама зяцевы. Інвалід Афганістана. Добрая душа. Не падумай, што я кніжкі на прапой пусціў. На пракорм пайшлі – на кефір з хлебам. Цукар раскоша. Каўбаса – у марах... Хацеў гэты стол прадаць, ды перадумаў. На чым, думаю, земляку і другу банкет дам... Апошнім прадам тэлевізар. Хопіць наглядзеўся ... да ванітаў.

**ЯНКА**. Цікава, як іншы творы беларускіх аўтараў?

**БАЗЫЛЬ.** Аўтараў пяцьдзесят – шэсцьдзесят і з жывых, і з тых, што адышлі ўжо, карысталіся добрым попытам. Іншых сто пяцьдзесят – дзвесце аддаў амаль за так ці ў нагрузку, або за пучок творчасці на кіло хлеба. Цяпер, мусіць, давядзецца стаяць з шапкаю ў падземным пераходзе. Калі прычапіць на "адзідас" значок заслужанага настаўніка, то можа і кіне хто з калегаў ці выхаванцаў.

**ЯНКА.** Я параіў бы пераход на перакрыжаванні праспекта з вуліцай Леніна. Ён над гэтым пераходам кожную раніцу з музыкальнаю сірэнаю праязджае. Баіцца... каб не задушыць якога разяваку. А тое, што прыдушыў цэлы народ, не здагадваецца.

**БАЗЫЛЬ** *(катэгарычна).* Яго не чапай... Ён хоча, але яму перашкаджаюць...

**ЯНКА.** Дрэннаму танцору і яйцы перашкаджаюць. Дарэчы, гэта тычыцца не толькі яго, але і цябе...

**БАЗЫЛЬ.** Не спяшайся з папрокамі, я ў цябе яшчэ нічога не папрасіў. І, заўваж, не папрашу, хоць ты і шчаслівы, і багаты, і, можа, нават мяне шкадуеш. Потым, я табе не зайздрошчу. Талент ёсць талент і добра, што табе за яго плацяць. Не зайздрошчу! Мне проста цікава было цябе пабачыць, мо нават паспавядацца. Ты быў благародным супернікам і я давяраў Ёй. За гэта абодвум і ўдзячны. Якім шляхам і куды пайду – не ведаю... Чарнобыльскім мне ўжо позна...

**ЯНКА.** Не перажывай – мы ўсе цяпер на чарнобыльскім шляху. Іншага ні ў нас, ні ў іншых суродзічаў няма і ўжо не будзе.

**БАЗЫЛЬ**. Добра было б, каб ты памыліўся...

**ЯНКА** *(пасля паўзы).* Цікавая з'ява. Некаторыя самасёлы, а сярод іх шмат не дурных бомжаў-філосафаў з усяго былога СССР, адчуваюць сябе ў зоне калі не самымі шчаслівымі, то самымі вольнымі – безумоўна.

**БАЗЫЛЬ.** Не тлумі маёй галавы...

**ЯНКА**. Разумееш, там – воля, свабода! Там няма дурнога, нахабнага, бязглуздага, прадажнага і зацкаванага начальства. Там няма калгасаў, прымусу, прыгону. Не выпадкова ж людзі кажуць: пі дзе ў свеце калгасаў няма, а хлеб і да хлеба ёсць усюды. І яшчэ там няма ў людзей трывогі, што зону далучаць да іншай дзяржавы, што зноў будзе Саюз, у якім яны ўжо былі. У зоне – воля! Парадокс? Нічога падобнага... Чалавек хоча пабыць вольным, хоць перад смерцю.

*(Працяг у наст. нум.)*

# Жывая кніга прыроды

**Для педагогаў дашкольных устаноў**
**Укладальнік Ірына Марачкіна**

### ВОСЕНЬ

Восень пацеркі рассыпала на мох.
Іх нізаць жураўка дапамог.
Везла восень пэндзлікі на возе.
Малявала лісце на бярозе,
На ручай пускаў лістоту клёнік,
Кожны лісцік – каляровы чоўнік.
Холадна, маркотна без абновы –
Стане Беларусі ліст кляновы.

*Данута Бічэль-Загнетава*

### КІСЛІНКІ – ЖУРАВІНКІ

—Сцяжыначка-сцяжынка
Куды нас прывяла ?
—Збірайце журавінкі,
Іх восень вам дала.

Кіслінкі-журавінкі,
Чырвоныя бакі,
Бяруць у кош дзяўчынкі,
Бяруць і хлапчукі.

*Ніна Галіноўская*

### ВЕРАСНЁВЫЯ ЛЯСЫ

Незвычайнай прыгажосці
Вераснёвыя лясы.
Узняліся ў поўным росце,
Расквітнелі верасы.
Яркагронкія рабіны
Запалілі ў гушчарах,
Нетаропка журавіны
Даспяваюць на імхах.
А з-пад лісця, з –пад іглічкі
Ўзышлі баравікі,
Сыраежкі і лісічкі,
Бабкі і махавікі,
Ды ў лясах, такіх багатых,
Шчодрых восеньскіх лясах
Нам чамусьці сумнавата
Па птушыных галасах.
Адзвінелі, адзвінелі
Звонкіх птушак галасы,
Пацішэлі, пасумнелі
Вераснёвыя лясы.

*Васіль Жуковіч*

### ЗАГАДКІ

Да яліны, да сасны
Доктар прыляцеў лясны.
Палячыў сасну, яліну
І высокі бор пакінуў,
Паляцеў у той лясок,
Дзе бярозавы піў сок.
*(Дзяцел)*

У ваду нырае смела,
Хутка ён будуе ўмела.
Пад вадой і на вадзе
Будаўніцтва ён вядзе.
*(Бабёр)*

У рыжай разбойніцы
Хвост, як мятла.
Ад кары ўцякла –
Сляды замяла.
*(Ліса)*

Гальчастыя рогі,
Хуткія ногі,
Колер поўсці – залаты.
Хто я, ці ведаеш ты?
*(Алень)*

### ЗАВІТАЛА ВОСЕНЬ

Завітала восень. Вось і верасень.
Жаўцізна кранула голле гаю.
Прыгажосць такая, нібы ў дзіўным сне…
Важка яблыкі з галін звісаюць.
Чырванее ў садзе ля платоў
Адзінокая пахілая каліна.
Пралівае, пэўна, сто цятоў
Пад цяжкімі гронкамі рабіны.
Спяць яшчэ дажджлівыя вятры
За далёкімі ад нас лясамі.
Сонейка, ад хмарак твар пратры,
Пабывай, вясёлае, між намі…
Верасень бярозавым лісткам
На сцяжынках часта след азначыць.
Хутка ў вырай паляцяць гуртом
Журавы з працягла-сумным плачам.

*Станіслаў Шушкевіч*

### ЖУРАВЫ

Як пачулі журавы
Шум асенні баравы,
Паляцелі на імшары,
Пазбіраліся па пары,
Сталі дружна ў карагод.
З імі ўвесь лясны народ.
—Гэй, цыбатыя танцоры,
Вам ляцець у вырай скора!
Не таміце лёгкіх ног,
Не тапчыце мох, быльнёг.
Не тапчыце, журавы,
На балоце жураві́н.

*Станіслаў Шушкевіч*

### ПАГАНКА

Зірнеш: паненка-выхвалянка,
Што апранула новы ўбор,
Ды не бяры: яна – паганка!
Нясе не толькі мухам мор!

### ГРУЗДЫ

У векавых бярозах чорных,
Як сподкі, круглыя грузды.
З іх быццам бы ў сталоўцы шчодрай,
П'юць дожджык сойкі і дразды.

### МУХАМОР

У яркім шоламе агністым,
Як рыцар – палюбуйся, бор! –
Стаіць на варце, ганарысты,
Граза ўсім мухам – мухамор!

*Кастусь Цвірка*

### СЛАНЕЧНІК

Вырас сланечнік
Вышэйшы за плот,
Як вартавы стаў
Ля самых варот.

Жоўтая кветка,
Як сонца кружок
Хто не заўважыць
Сланечнік здалёк?

Стаіць веліканам
Ён толькі адзін
Сярод агародных
Розных раслін.

*Захар Бірала.*

### ЗАЯЦ ВАРЫЦЬ ПІВА

Туман плыве з нізіны сівы
Над нівай голай і пустой.
"Глядзіце, заяц варыць піва", —
Жартуюць людзі між сабой.
А я відушчым бачу зрокам,
Як ён прысеў каля агню,
Трыгубы, шэры, касавокі,
І піва варыць з ячманю.
Яліна іскрамі страляе,
А ён прыладзіў кацялок
І трэскай варыва мяшае,
Каштуе, сплёўвае набок.
І піва заяц зварыць густа,
А на закуску – бурачок,
Трава, заечая капуста,
Галін асінавых пучок.
З зайчыхай вып'юць па маленькай
І дзеткам трошкі паднясуць,
Пужлівым галаском таненькім
"Цвіцела морква" завядуць.
Пабачыш – не гані з абсады,
Дай хоць на гэты дзень спакой,
Павінна ж быць і ў зайца радасць
Перад халоднаю зімой.

*Уладзімір Караткевіч*

### ВОЖЫК – ВОЗЧЫК

Едзе, едзе лісця воз
Паміж клёнаў і бяроз.
Лісце жоўтае на возе.
Гэй, не стойце на дарозе!
Воз клубочкам пакаціўся –
Ліст ніводзін не зваліўся.
Падчапіў ён новыя
Два лісты кляновыя,
Едзе, едзе дзіўны воз
Паміж клёнаў і бяроз.

*Ніна Галіноўская*

# Давайце спяваць па-беларуску

## Беларусы свету

Музыка Міколы ЯЦКОВА Словы Яўгена ХВАЛЕЯ

Узнёсла (♩=66)

Нас рас-кі - нуў лёс Па у- сёй пла -не - це. Сніц-ца ў бел-ым све-це, Бе-ла-русь, твой плёс. Ўзор. Бе - ла - ру-сы све-ту, Клі-нам жураўлі-ным Па-ля- -цім да-свец-цем Да сваёй Айчы-ны. Хай я-на су-стрэ-не Шча-сця белым кветамА што бо-лей трэба Беларусам све-ту.

Нас раскінуў лёс
Па усёй планеце.
Сніцца ў белым свеце.
Беларусь, твой плёс.

Рэчак і азёр
Паясы, вяночкі –
Кліча, кліча з прочак
Беларускі ўзор.

**Прыпеў**: Беларусы свету,
Клінам жураўліным
Паляцім дасвецццем
Да сваёй айчыны.
Хай яна сустрэне
Шчасця белым кветам
А што болей трэба
Беларусам свету.

Сыдуцца сыны
Ля агню Купалля,
Дзе душу апаліць
Песня з даўніны.

**Прыпеў.**

Бацькаўшчыны сцяг,
Зорная Пагоня
Вернуць нас сягоння
На забыты шлях.

**Прыпеў**.

## Міжнародны дзіцячы пленэр

Пяць дзён у музеі-сядзібе Іллі Рэпіна, аўтара славутай карціны "Беларус", што ў ваколіцах Віцебска, праходзіў V Міжнародны дзіцячы пленэр імя славутага мастака.Каля 30 выхаванцаў дзіцячых мастацкіх школ Віцебска, Полацка, Наваполацка, Смаленскай вобласці і горада Разані, з Расеі, прынялі ў ім удзел.

На здымку: Валя Буртонава і яе работа "Па рэпінскіх месцах". Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 27. 09. 99 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 2599
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 60 000 руб., 3 мес.- 180 000 руб.
***Кошт у розніцу:*** 15 000 руб.